№ 33 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 33 (229). Год III. Вільня, 23 красавіка 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

## 22 красавіка.

**Заходні тэатр:**

На полях бітв—мейсцовые аперацыі пяхоты. Пры Бэтюну ворагі памыкаліся перайсьці цераз канал Лябассэ, але былі адбіты агнём. На поўначы ад Альбэр мы ўзялі ў палон 88 англічан, у тым 2 афіцэраў, і здабылі 22 мінамёты і некалькі кулемётаў. Артылерыйская бітва трывала толькі на некаторых адрэзках. Пры Альткірх мы ў разведцы ўзялі палонных.

---

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У амэрыканскай арміі узрастае чысло прыпадкаў самахвотнага калецтва. З забраных амэрыканскіх дакумэнтаў відаць, што ў адным батальёне за 3 дні было 6 гэткіх прыпадкаў „неуважлівасьці“ пры чыстцы аружжа.

РОТТЭРДАМ (В.Т.Б.). У англіцкім генэральным штабе с прычыны апошніх неудач зроблены вялікіе перамены. Генэралы Вігэм і Морі вызваны з Англіі і атрымаюць новые назначэньні на фронці.

ПАРЫЖ. Немцы робяць перэгрупіроўку сваіх дывізій. Яны сцягіваюць цяпер цяжкую артылерыю і робяць запас амуніціі.

Абстрэл Парыжа трывае далей Адна бомба прабіла стрэху і два этажы ў фабрыцы, дзе рабілі бронзовые фігуры.

ПАРЫЖ. Чысло ахвяр дальнабойнай гарматы даходзіць 354 асоб, у тым ліку 118 забітых. У 1871 г. ў часі 22-дзённага абстрэлуналічэно 474 ахвяры, у тым ліку 105 забітых.

ПАРЫЖ. С прычыны невялікіх запасаў мяса кожын месяц адзін тыдзен будзе зусім без мяса. 5 дзён у месяц пазволена ужываць каніну.

ЛЮГАНО. Італьянскіе газэты ў вадзін голас кажуць, што бітва у Фляндрыі прынясе развязку міравой вайны. Мэта немцаў—зніштажэньне англіцкай арміі. Пытаньне толькі чы англіцкіе войскі і вялізарная падмога з Амэрыкі пасьпеюць у свой час. Барацьба йдзе не на жыцьцё, а на сьмерць. Ваенная рада ў Вэрсалі складаецца цяпер с францускага прэстаўніка генэрала Бэлен—маршалка і членаў: англіцкага генэрала Шэквіль Вэст, італьянскага—Робіляс і амэрыканскага—Бліс.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Паліція забрала ўчора ўсё аружжэ і амуніцію ў складах аружжа ў Дубліне. Гэтаж зроблено і ў іншых месцох Ірляндзіі.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Большая часьць утрачэнага абшару уступлена дабравольна с прычыны стратэгічнага адступленьня, а нездабыта немцамі.

ЛОНДОН (Рэўтэр). У Бэльфасьці ірлянзкі нацыяналіст Дэвлін перад тысячамі людзей заявіў, што трэба ўсемі способамі бароцца проці правядзеньня ў жыцьцё закона аб ваеннай службе.

ПАРЫЖ (Рэўтэр). Італьянскіе міністры Орляндо і Б'янкі прыехалі сюды з Рыму.

НЬЮ-ІОРК (Рэўтэр). Ад 15 мая ладзяцца пачтовые зносіны праз паветрэ між Н'ю-Іоркам і Вашынгтонам.

ЛЮГАНО. На заседаньні італьянскага парлямэнту міністэр-прэзыдэнт Орляндо заявіў, што пісьмо аўстрыяцкага імператара—гэта адна с паміж спроб вызваць нязгодлівасць у цэнтральных дзержаў і выкарыстаць замешаньне між імі с прычыны чутак аб спадзеваным міры.

ВАШЫНГТОН. Генэрал Краўдэн у сваім рапарці прэдлагае мобілізоваць усіх мужчын ад 17 да 50 гадоў.

КІЕЎ. Міністэрства украінскай народнай рэспублікі асыгнавало 50 мільёнаў на дэмобілізацію Чорнаморскага флоту.

ШТОКГОЛЬМ. У Фінляндзіі чырвоная гвардзія забіла свайго ваеннага міністра Гаапаляйнэна, караючы гэтак за цяжкіе страты ў яе пад ягокамандай. Забіты працаваў перад вайной, як работнік у тартаку.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. (Аг. Мілі). У ваколіцах Эрывані армянскіе банды вырэзалі 5.000 мусульман. Другіе здалелі адкупіцца ад сьмерці толькі за вялікіе гропы. у самай Ерывані забіты 100 і ранены 50 мусульман, крамы мусульманскіе зрабаваны і мэчет зруйнованы Шкоды лічаць на 100 мільёнаў рублёў.

КІЕЎ. Радавы двор Тургенева ў Тульскай губэрні знішчэн селянамі. Зніштожаны: бібліотэка, гісторычные дакумэнты і неапублікаваная карэспандэнція гэтага пісьменніка.

ВАРШАВА. Польская дзержаўная рада, сазыў каторай быў назначэн на 3 мая, адкрываецца 6.

---

*Вільня, 23 красавіка 1918.*

Наша будучына цяперака залежыць ад двох варункаў: ад нашых уласных сіл і ад ходу палітычных здарэньняў у Эўропе.

Ясна, што першы варунак залежыць ад нас самых, — ад таго, чы наш народ у гэты незвычайна важны гістарычны момэнт выкажэ здольнасць узяць у свае рукі ўсю ўласць на свaей зямлі. У гэтым кірунку у межах новай нямецкай окупаціі, дзе палітычнае палажэньне дало беларусам магчымасць організавацца, зроблено ўжо многа: там мы бачым зачатак першай беларускай гасударственай уласьці, — і то ўласьці бязспорна законнай і *прызнанай усім насяленьнем Беларусі*, ня гледзячы на тое, што некаторые групы, ня вызваліўшыеся яшчэ ад большэвіцкіх настраеньняў, не згаджаюцца з апавешчэнай гэтай уласьцю незалежнасьцю Беларусі. І будаваньне беларускай дзержаўнасьці тамака ўжо йдзе, работа пад кіраўніцтвам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і Народнага Сэкрэтарыату развіваецца, як сьлед, зьбіраючы лепшые і нацыянальна сьвядомые сілы нашага народу. Гэтага ня могуць не пацьвярдзіць нават нашы найгоршые ворагі: гэта робіцца адкрыта, публічна, гэта відаць кожнаму.

Затое многа сумлеваньня і недаверчывасьці спатыкаемо мы нават і у некаторых нашых беларусаў с прычыны другога варунку правядзеньня ў жыцьцё нашага палітычнага ідэалу. І гэта ня дзіва: бо аб тым, як уложацца палітычные адносіны ў усходняй Эўропе, мы зусім ня можэм яшче судзіць. Ведаем толькі адно: цэнтральные дзержавы тады згодзяцця прызнаць нашу незалежнасць, калі гэта будзе згодліво з іх уласнымі інтэрэсамі. Але з гэтага яшчэ зусім не вынікае, што нам цяперака трэба злажыць рукі ды спакойна ждаць, што аб нас і нашым краю пастановяць у Бэрліне, Наадварот: цяпер-то мы і павінны напружыць усе свае творчые сілы, павінны найбольш ярка выявіць сваю здольнасць да самабытнага жыцьця, бо і ў Берліне, і ўсюды з беларусамі будуць лічыцца толькі тады, як мы будзем становіць *відочную рэальную сілу*.

Мы ўжо мелі добрую навуку ад расейскіх большэвікоў. Калі Украіна аб'явіла сябе незалежнай рэспублікай, большэвіцкі ўрад быў прымушэн прызнаць яе, бо Украіна мела рэальную сілу дзеля зашчыты свaей дзержаўнасьці—нацыянальную армію, якая цяпер с падмогай Нямеччыны і Аўстрыі ачышчае сваю зямлю ад большэвіцкіх банд. Бэларусы пачалі організаваць свае нацыянальнае войска лішне позна: гэту організацію прыпыніла дэмобілізація; і вось мы на свaей скуры спазналі, як выглядае самаазначэньне беларускага народу, калі яго нельга падтрымаць штыкамі...

Пры цяперашнім палітычным палажэньні беларусы пакуль-што не маюць магчымасьці стварыць мілітарнай сілы. Затое мы павінны рабіць тое, што можна: організаваць сваю гасударственную машыну, злучаць на гэтым грунці ўсе жывые, чынные элемэнты і асабліві націск рабіць на культурна-нацыянальную работу.

Мы лічым свaей павіннасьцю асобна затрымацца над справай культурна-нацыянальнай работы—не затым, каб тлумачыць вагу яе наагул, бо гэта кожнаму ясна, але затым, каб паказаць значэньне яе з палітычнага пагляду. Дагэтуль усе гасударственые установы ў Беларусі, ўсе урады, школы і т. п. мелі чыста расейскі характэр: усюды панавала маскоўшчына,—а гэта прыдавало і ўсяму краю маскоўскі характэр. І няволя Беларусі выяўлялася ня толькі ў падчыненьні маскоўскім царом, ня толькі у прыналежнасьці да расейскай дзержавы, але і ў тым, што маскоўшчына лішне глыбока ўелася ва ўсё нашае жыцьце. „Устаўная Грамата“ Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з 25 марца с. г. кажэ, што апавешчэньнем незалежнасьці Беларусі „скідаецца *апошняе ярмо дзержаўнай залежнасьці*“. Але, папраўдзі, ярмо гэтае—не апошняе: яшчэ і дагэтуль мы бачымо насьледкі *культурнай залежнасьці* ад маскалёў, тэй залежнасьці, якая выгнала зусюль нашу родную мову, спыніла развіцьце нашае нацыянальнае культуры і прымусіла нас карміцца тым, што тварылі маскалі, а часьцю палякі. Болей таго: ўсе нашы творчые сілы ішлі на службу чужынцам і памагалі ім у іх культурнай працы, якая на нашай зямлі кіравалася да поўнага зніштажэньня беларускага народу. І вось, калі мы гаворым аб поўным вызваленьні нашае бацькаўшчыны ад чужацкага панаваньня, калі наша ладжэная дзержаўнасць мае быць папраўдзі *беларускай*, дык яна павінна быць збудована на беларускім нацыянальным фундамэнці, і першым камнем гэтага фундамэнту павінна быць *беларуская культурна-нацыянальная работа*.

---

